# Ванда

Цэнтральны Камітэт камсамола Польшчы выклікаў мяне з Беластока ў Варшаву для справаздачы якраз напярэдадні першамайскіх дзён. У сувязі з масавымі арыштамі ў гарадах Заходняй Беларусі мне прапанавалі правесці Першае мая ў Варшаве. І вось з моманту дэманстрацыі мінула больш двух месяцаў, але баявыя рэвалюцыйныя песні «На барыкады», «Чырвоны штандар» усё яшчэ гучаць у маіх вушах.

У маім уяўленні ажылі шумныя, па веснавому стракатыя вуліцы Варшавы. І з гэтага шумнага, стракатага натоўпу выдзяляецца ўнушальная калона рабочых дэманстрантаў. Узяўшыся пад рукі, з моцна сціснутымі кулакамі дэманстранты маршыруюць пасярэдзіне вуліцы. Над калонай лунаюць чырвоныя сцягі. Паліцыя шалее, але не можа затрымаць і разагнаць дэманстрацыю. Магутным поступам дэманстранты крочаць пад гучныя прывітанні гараджан. Але вось азвярэлыя паліцэйскія накіроўваюць супраць дэманстрантаў брандспойты пажарных машын, кідаюць слёзатачывыя бомбы. Дэманстранты разбягаюцца, каб зноў сабрацца ў другім месцы, на другой вуліцы.

На імгненне я заплюшчыў вочы, але першамайскія падзеі, як на кінаэкране, праходзілі ў маёй свядомасці. Цяпер словы Глебава мацней краналі маё сэрца, глыбей пранікалі ва ўсе куткі маёй душы. Сіла яго слоў была для мяне яшчэ больш адчувальнай і таму, што ён гаварыў аб падзеях, да якіх я сам меў непасрэдныя адносіны. Ён гаварыў аб гераічных баях лесарубаў і возчыкаў у Белавежскай пушчы, аб забастоўках, дэманстрацыях, масоўках рабочых, сялян, моладзі Заходняй Беларусі, аб іх патрабаванні адкрыць школы на роднай мове.

Стук у дзверы перапыніў нашу размову. Увайшла сувязная сакратарыята Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Зося. Па яе выгляду можна было зразумець, што прынесла яна несуцяшальныя навіны. Смутак, абурэнне і адчай адбіваліся на яе твары, з вачэй, здавалася, вось - вось прыснуць слёзы.

— Зося, ты хворая ці дрэнна сябе адчуваеш? — асцярожна запытаўся Глебаў.

— Не, горш чым хворая. Горш чым агідна адчуваю сябе, — адказала Зося. — Скажыце, як доўга яшчэ будзе так? — пераводзячы праніклівы позірк з Глебава на мяне, працягвала яна.

— Што? Аб чым ты, Зося, гаворыш? — здзіўлена спытаў Глебаў.

— А аб тым, што ў Навагрудчыне і Слонімшчыне масавыя арышты і правакатар Стральчук пераехаў ужо ў Беласток і там распачаў сваю брудную справу, — з адчаем адказала Зося.

— У Беластоку, Зося, ён не страшны. Хіба толькі паспрабуе выдаваць людзей у Бельскім раёне, там, дзе ўступаў у арганізацыю, — пачаў супакойваць яе Глебаў.

*Р. Залашанская («Ванда») — член ЦК КСМЗБ, сакратар Беластоцкага акругкома камсамола.*

— Навошта яму ехаць у Бельск, калі на вуліцы Беластока ён аддаў у рукі паліцыі Ванду, сакратара акруговага камітэта камсамола, — з абурэннем сказала Зося.

Ад гэтых яе слоў хмурны цень болю і абурэння лёг на твар Глебава. Ныючы боль сціснуў маё сэрца, перацінаў маё горла. Я міжвольна памкнуўся да акна. Але не вабіла мяне ўжо шумная вуліца, стала змрочным варшаўскае неба. Усяго толькі два дні таму назад я гутарыў з Вандай у Беластоку, інструктаваў яе па рабоце. Ванда — маладая прыгожая дзяўчына, член Цэнтральнага Камітэта камсамола Заходняй Беларусі. Зараз ёй споўнілася толькі дваццаць тры гады. Чацвёртую частку свайго жыцця яна прасядзела ў фашысцкіх турмах. Як мог прасачыць яе правакатар Стральчук? — губляўся я ў здагадках і меркаваннях. Глебаў таксама, відаць, думаў аб гэтым, нервова ходзячы па пакоі.

— Не, вы ўявіце сабе, які нягоднік гэты Стральчук, — парушыла маўчанне Зося і пачала расказваць аб трагічных абставінах. Ванда ішла з пасяджэння акруговага камітэта камсамола па вуліцы Сянкевіча ў Беластоку. Тут яе сустрэў Стральчук у суправаджэнні двух шпікаў. «Ванда, добры дзень!» — сказаў ён. На вуліцы было многа публікі. Ванда не разгубілася, плюнула і пайшла далей. Яна ўжо заўважыла, што Стральчук не адзін, і таму хацела скрыцца. Але паліцэйскія псы не адставалі ад яе ні на крок. Каб не згубіць Ванду, правакатар кінуўся бегчы і спыніў яе. А Ванда — малайчына. Яна накінулася на Стральчука, пачала яго біць і пляваць яму ў вочы.

Я добра ведаў Ванду, высока цаніў яе мужнасць і вытрымку падпольшчыцы, паважаў як дзяўчыну, таварыша, друга.

Прыгадаліся мне яшчэ раз напружаныя дні забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Беластоку, баявыя выступленні моладзі ў Вільна, душой якіх была Ванда. Успаміналася яе работа на Слонімшчыне па арганізацыі моладзі, дзяцей на барацьбу за школу на роднай беларускай мове. Тады там Стральчук працаваў у акруговым камітэце камсамола. І цяпер я ўявіў сабе Ванду за астрожнымі кратамі. Два дні таму назад бачыў яе і хто ведае, ці сустрэну яшчэ калі - небудзь у жыцці. Мілая, слаўная дзяўчына - камсамолка! Мацуйся ў паліцэйскіх засценках...

СЯРГЕЙ АНІСАЎ

УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ

## МАГНІТАГОРСК АБО РАЗМОВА З ЯНАМ

Карцар нумар трынаццаць. З Янам
Разам селі, марым аб свабодзе.
Дні са тры... кінулі зрана
І трымаюць — сядзі ды годзе.
На падлозе заснуць ёсць шанцы.
Супу далі — пёс ашалее.
Ян надзеў дыялектыкі панцыр,
А мяне — паэзія грэе.
Бруд, смурод, цяжкае хрыпенне..
Не заўсёды жыццё прыгожа.
Хтось накрэсліў вуглём на сценах:
«Справа пекараў пераможа».
Напляваць мне — ці-ж гэта гора!
Месяц і больш утрываю,
Але - ж Ян мае страўнік хворы
І пад шэсцьдзесят год ён мае.
Трэба многа мець гарту, волі,
Каб здалася бяда прыгожай,
Калі ў страўніку чуеш болі —
Дыялектыка не паможа.
Я сяджу і лічу гадзіны,
Ян заснуў, на сцяну успяты,
Над яго галавой ў сівінах
Засвятлела палова пятай.
Клюнуў носам, схапіўся порстка,
Потым выпрастаў хутка плечы:
«Знаеш, — кажа, — ў Магнітагорску
Сёння пусцяць яшчэ дзве печы...»
Золак поўз у акно непагожы,
Акурат, як на ўбой, баязліва,
Я падумаў: а як прыгожа
І ў гэтай турме паршывай.
І пра Яна я думаў таксама,
Дзе той Рым, дзе той Крым, дзе край Полькі...
Палымнелі ў турме, за брамай
Печы зыркія Магнітагорска.

Пераклаў С. ДЗЯРГАЙ

# СКАЯ БЯРОЗА

— Канец! — крычалі паліцыянты. Але некаторыя арыштаваныя заставаліся яшчэ ў нужніку. У такіх выпадках паліцыянты ўбягалі, білі іх палкамі і камандавалі:

— Ляж! — Пад'ём! Паўзі! Людзі выціралі сваімі целамі смярдзячую ад калу і мачы падлогу. Голымі рукамі вымушаны былі прыбіраць нужнік.

— Бягом марш! — крычалі паліцыянты і выганялі арыштаваных на пляц. Пляц быў загароджаны калючым дротам. На чало выступіў кат Мікульскі.

— Хачу вам растлумачыць некаторыя справы, звязаныя з прабываннем у нас, — заявіў ён строга. — Няма ў нас пракурора, ані доктара, мы не прытрымліваемся ніякіх правіл, ані законаў. Будзем да вас так адносіцца, як самі ўважаем. Не прымаем ніякіх просьб ані скаргаў.

— Смірна! — гучыць каманда. Усе напружыліся, як струны. Так стаялі, аж пакуль вытрымлівалі. А калі ўжо не вытрымоўвалі і дзе-ні-дзе хто паварушыўся, паліцыянты распачыналі муштру. Муштрай называліся катаванні, якія надрывалі здароўе і сілу з людзей.

— Бягом марш! Ляж! Качыным крокам, марш! Пад'ём! Ляж! Паўзі! На каленях марш. І так па некалькі гадзін. Слабыя падалі. На іх сыпаліся ўдары палак і каменне. Замучаных да паўсмерці таварышаў вязні заносілі ў камеры.

Арыштаваных запрагалі ў фургоны, нагружаныя каменнем, паганялі і да крыві секлі пугамі.

Арыштаваныя цягалі па шашы каткі (па некалькі тон вагою), насілі каменне, бульбу ў мяшках на плячах (замест вазіць вазамі, якія ў той час стаялі парожнімі).

* * *

Паліцыянты ганялі іх на 5-гектаравыя палеткі, засеяныя аўсом, і прымушалі сашмаргваць насенне. Стражнікі ані на хвіліну не давалі адагнуцца.

Пры дапамозе такой працы, яны імкнуліся псіхічна і фізічна знясіліць вязняў.

Карцар Бярозы — 8 каменных ям на полі, загароджаных калючым дротам, у якія не мог праціснуцца нават самы нязначны струменьчык святла. Нельга было нават спаць. Што дзве гадзіны стражнікі стукалі ў жалезныя дзверы і за кожным разам трэба было адказваць — «ёсць». Карцар быў самай страшэннай, дзікай формай катаванняў.

Зверху днём і ноччу капала вада. Хто выходзіў з карцара, той падобны быў на труп, баяўся святла і ледзь трымаўся на нагах.

Пабудавалі ў лагеры дарогу з вострых кускоў цэглы. Паліцыянты назвалі яе «дарогай Сталіна». Яны прымушалі арыштаваных хадзіць па ёй на голых каленях. Самлеўшых качалі па вострай цэгле, цягалі за ногі ўздоўж і ўшырыню, іранічна прыгаварваючы: «Вось вам дарога Сталіна».

У выніку голаду людзі слеплі — нападала курыная слепата. Але па нейкім часе слепата знікла, тады ізноў з'явілася іншая змора — крывавая бягунка.

* * *

Настала раніца 18 верасня 1939 года. Час на пад'ём. Але ў калідоры нікога няма, не чуваць ні гука — усюды глуха. У камеры, дзе сядзеў Харкевіч, хтосьці выбіў шыбу. Праз шчылінкі відаць быў турэмны пляц, загароды з калючага дроту і натоўп інтэрніраваных. Праз некалькі мінут арыштаваныя выбілі дзверы.

— Свабода! — вырваўся радасны крык. Адчыняюць дзверы іншых камер. За хвіліну ўжо ўсе арыштаваныя выйшлі на пляц і далучыліся да інтэрніраваных.

Харкевіч абарваў свой нумар 2946 і кінуў на дрот.

Арыштаваныя і інтэрніраваныя, як магутны паток, выплылі на шашу. У лагеры не было ніводнага ката, усе ўцяклі ноччу.

Сонца стаяла ўжо высока. Дарогай памалу ішлі: Уладзімір Харкевіч, Фёдар Чарняўскі, Павел Валкавыцкі. Да іх далучыўся Ян Крычко — рабочы з Гайнаўкі. Па дарозе сустрэлі яшчэ Аляксандра Гаўрылюка — украінскага пісьменніка, які некалькі год прасядзеў у катоўні — Картузскай Бярозе і групу інтэрніраваных: Аляксандра Астанкевіча, Міколу Гаўрылюка з Гайнаўкі, Абрамовіча з Кляшчэль, Антона Нікановіча з Макаўкі, Цімафея Садоўскага, Лукаша Ляўчука, Флёрыяна Ляўчука з Вялікіх Тынявіч, Андрэя Галёнку з Курашава і інш.

Вярнуўшыся ў родныя мясціны, яны ізноў сталі ў першых радах, як актыўныя грамадска - палітычныя дзеячы.

БАРЫС НІКІЦЮК

# Саюз салянскай моладзі пашырае сваю дзейнасць

У асяроддзях нацыянальных меншасцей, і асабліва ў беларускім, Саюз сялянскай моладзі пашырае сваю дзейнасць і праводзіць разнастайныя формы культурна - асветнай працы. У Бельскім, Гайнаўскім і Беластоцкім паветах гурткі Саюза сялянскай моладзі штораз больш актыўна працуюць у сваім асяроддзі. Вынікам гэтага з'явілася вялікая колькасць мастацкіх самадзейных калектываў, асветных гурткоў, гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, узрастаючая колькасць чынаў і абавязацельстваў у гонар III З'езду ПАРП і 1000-годдзя Польскай дзяржавы.

Варта падкрэсліць факт, што арганізацыя сялянскай моладзі ў вёсцы Кузава (Гайнаўскі павет) першая ў ваяводстве прыняла на сябе абавязацельства высыпаць жвірам дарогу каля сваёй вёскі на даўжыні 1.500 метраў, грамадскім чынам адрамантаваць клуб, арганізаваць спартыўную секцыю. Усе члены арганізацыі калектыўна наладжваюць падпіску на орган ССМ «Зарыва», а мастацкі калектыў абавязаўся арганізаваць вечарыну для маладых рабочых прадпрыемства сухой дыстыляцыі дрэва ў Гайнаўцы.

За прыкладам моладзі з Кузава пайшла моладзь іншых вёсак. Напрыклад, члены Саюза сялянскай моладзі з вёскі Навасады, якіх тут ёсць 40 асоб, абавязаліся навазіць жвір на панадворак ля клуба, а мастацкі гурток паедзе ў суседнія вёскі з пастаноўкай п'есы «Паўлінка» Янкі Купалы. Таксама мастацкі калектыў з Ляўкова вырашыў паехаць у вёску Навасады і Арэшкава і наладзіць там вечарыны, а гурткі ССМ з Семяноўкі і Дабраводы запланавалі стварыць харавыя калектывы і адрамантаваць свае клубы.

Значная частка вышэй успомненых абавязацельстваў ужо выканана.

Арганізацыі ССМ у Бельскім павеце аддаюць увагу асветным справам. У гэтым годзе на вёсках арганізавана значна большая колькасць курсаў агульнаадукацыйнага характару і вячэрніх школ для дарослых, чым у мінулыя гады. Развіваецца таксама мастацкая самадзейнасць. У вёсцы Пілікі арганізацыя ССМ налічвае 40 членаў, якія арганізавалі гурток мандалістаў і харавы калектыў. Калектывы працуюць вельмі старанна, штодзень адбываюцца рэпетыцыі, а ў бліжэйшыя дні распачнуцца паездкі з канцэртамі ў вёскі і мястэчкі.

Апрача таго, моладзь з Пілік зрабіла рамонт клуба, а даход з арганізаваных вечарын і канцэртаў прызначыць на сцяг Павятовага Праўлення Саюза сялянскай моладзі ў Бельску - Падляскім.

Моладзь з Краснай Вёскі разам з пажарнай камандай абавязалася грамадскім чынам пабудаваць грамадскі клуб і на гэтую мэту сабрала ўжо 1000 зл.

Моладзь, якая працуе ў гуртках сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, вучыцца як лепш гаспадарыць на дабрабыт свой і народа.

Для прыкладу можам падаць гурток у Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет).

Зімою моладзь наладзіла самаадукацыю і, здабыўшы веды, выкарыстоўвала іх улетку на доследных палетках. Камісія зрабіла ацэнку вынікаў працы на працягу цэлага года і сцвярдзіла, што ўраджай кармавых буракоў атрымаўся 900 цэнтнераў з гектара, а сябра Міхась Грыц атрымаў вынік 1000 цэнтнераў з гектара. У вёсцы Калодна моладзь сабрала ў сярэднім 220 цэнтнераў з гектара. Ураджай гэта высокі, беручы пад увагу лёгкую, пераважна пясчаную зямлю.

Гэта толькі частка тых абавязацельстваў і прац, якія рэалізуе беларуская моладзь у сваіх асяроддзях, яны сведчаць аб тым, што моладзь беларускіх асяроддзяў заўсёды актыўна стаіць у першых радах з усёй вясковай моладдзю нашай краіны, яна заўсёды ў першых радах там, дзе гутарка ідзе аб гаспадарцы, сям'і, і карысці ўсяго народа.

ВІТАЛЬД ЕЛЬСКІ
член ВП Саюза
сялянскай моладзі
ў Беластоку

## Ці плаціць скарбовыя заплаты за прашэнні аб апале і будаўнічых матэрыялах

Мы атрымалі некалькі лістаў ад нашых чытачоў, у якіх яны пытаюць ці трэба плаціць т. зв. скарбовыя заплаты за прашэнні аб будаўнічых матэрыялах і прыдзяленні апалу.

У сувязі з гэтым паведамляем, што згодна з загадам міністра фінансаў з 26 чэрвеня 1958 г. скарбовыя заплаты за прашэнні на вугаль і будаўнічыя матэрыялы ліквідаваны. Загад гэты аб'яўлены быў 14 ліпеня 1958 г. па радыё, у «Маніторы Польскім» і ў друку.

Аказваецца, як пішуць нашы чытачы, у Грамадскіх Радах народовых, нягледзячы на тое, бяруць скарбовыя заплаты. Калі ад каго з вас, дарагія чытачы, будуць патрабаваць у далейшым заплат за прашэнні аб вугалю і будаўнічых матэрыялах, вы маеце поўнае права адмовіцца, не заплаціць і паведаміць павятовую раду народовую, або і Міністэрства фінансаў.

## Больш такіх школ і настаўнікаў

У школе ў Сацах, у якой кіраўніком з'яўляецца грам. Кастусь Крушэўскі, настаўнікі добра працуюць і апрача таго займаюцца культурнай дзейнасцю. Нядаўна ў нашу вёску Пухлы, дзе няма ні радыё, ні школы, прыбылі вучні школы ў Сацах з мастацкім кіраўніком гуртка Марыяй Крушэўскай. Вучні выканалі многа прыгожых танцаў, песень, вершаў і гумараў. Насельніцтву Пухлаў вельмі спадабалася мастацкая частка. Гэта было ўжо другое выступленне вучняў з Сацоў у нашай вёсцы.

Ад імя насельніцтва Пухлаў складаю вялікую падзяку настаўніцы Марыі Крушэўскай і ўсім іншым настаўнікам і дзецям з Сацоў. Просім прыязджаць да нас часцей.

П.

# Голас рэвалюцыйнага Беластока

(Працяг са стар. 4)

не падабаецца, што мы не любім праклятых паноў у Польшчы, ім не падабаецца, што мы любім Савецкі Саюз і гатовы стаць у яго абарону сваімі грудзьмі. Бо там наш брат рабочы выкінуў да ста д'яблаў цароў, князёў, усю зграю капіталістаў і памешчыкаў, паразітаў — такіх, якія яшчэ ездзяць тут на нашых шыях. Сягоннешняя бойка з паліцыяй напомніла мне тысяча дзевяцьсот пяты год, калі мы вось так царскіх жандармаў сцягвалі з коней. Ганьба! Ганьба пілсудчыкаўскаму смуроду, які засмуродзіў Польшчу!

— Дарагія таварышы! — рваў на сабе грудзі стары Ян, — яны ж, псяюхі, прадалі Польшчу з вантробамі нямецкаму кату рабочага класа Гітлеру! Ганьба! Ганьба!

— Ганьба!!! — крыкнуў натоўп.

Усе адчувалі, што голас старога Яна з'яўляецца голасам рэвалюцыйнага Беластока...

...На мітынгу выбралі дэлегацыю, каб яна зараз жа пайшла ў пастарунак і вызваліла арыштаваных. Дэлегацыя пайшла. Усе чакалі. Прамоўцы выступалі за прамоўцамі. Пэпээсаўцы некуды зніклі.

Дэлегацыя прывяла арыштаваных. І тады выбухнуў гром воплескаў.

Калоны з песняй «Чырвоны сцяг» рушылі далей.

Цяпер мэтай паходу было ваяводства — дайсці да яго і выслаць дэлегацыю з дамаганнямі рабочага класа Беластока.

Але па дарозе сустрэла іх новая перашкода.

Сустрэла іх дваццаць пешых паліцыянтаў і столькі ж узброенай моладзі з ваенна - фашысцкай арганізацыі «Стралец». Надзя, убачыўшы іх, амаль крыкнула на вуха Андрэю:

— Глядзі! Гэта з Бельскага павета! Невядома, як яны сябе павядуць? Сярод іх былі нашы хлопцы...

Афіцэр паліцыі крыкнуў дэманстрантам, каб разышліся. Калоны ішлі. Тады афіцэр папярэдзіў, што будзе ўжыта зброя. Дэманстранты спыніліся. Наперад выйшлі тры маладыя рабочыя і звярнуліся з прамовай да стральцоў.

Афіцэр скамандаваў стральцам узяць вінтоўкі на прыцэл. Стральцы выканалі каманду. Надзя вялікімі вачыма глядзела ў іх бок, глядзела на дэлегатаў, якіх яна сёння ноччу рыхтавала да такога выступлення.

Пачулася каманда: «Плі!» Раздаліся стрэлы, але... у паветра. Стральцы другой каманды не выканалі. Афіцэр з пенай на вуснах падляцеў да іх і, гатовы біць па тварах, тупаў нагамі, крычаў: «Што?! Не выконваць загаду?! Хто вас так навучыў?!»

Правафланговы стралец выступіў з шарэнгі крок наперад, як і трэба па статуту, і сказаў на ўвесь голас:

— Мы ў сваіх братоў і сёстраў страляць не будзем!

Афіцэр анямеў. Потым раптам падбег к паліцыянтам і на ўвесь голас заўзята крыкнуў:

— Па стральцах — здрадніках — плі!

Грукнулі стрэлы. Восем чалавек стральцоў упала забітымі.

Дэманстранты атакавалі паліцыю...

# КАЛІНОЎШЧЫКІ

(Працяг са стар. 3)

— А цяпер можа хто скажа верш? — азваўся камісар.

Люба Трахімчук устала і нясмела падышла да кастра. Апёршыся на вінтоўцы пачала дэкламаваць урывак з паэмы Маякоўскага «Добра». Потым прышла чарга на вершы Купалы, Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча.

Была ўжо глыбокая поўнач, калі памалу пачалі разыходзіцца. Адны ішлі спаць, другія пайшлі змяніць вартавых. Два невялікія патрулі адыйшлі ў далёкую разведку.

Яроцкі і Люба Трахімчук пайшлі да рэчкі, што цякла непадалёку ад партызанскага лагера. Рэдка так бывалі разам. Штодзённыя справы партызанскага жыцця пастаянна разлучалі іх. Пабыўка ў атрадзе ўмацавала паміж імі дружбу, якая перайшла ў вялікае каханне. Не мелі аднак адвагі паказаць гэта ў прысутнасці таварышаў.

На другі дзень па загаду Карпюка ўвесь атрад рушыў у аколіцы вёскі Ліпаў Мост, дзе камандаванне спадзявалася сустрэцца са штабам брыгады і атрымаць ад яго канкрэтныя ўказанні на час пераходу фронта ў гэтым раёне.

У лясах каля Ліпавага Моста сустрэлі атрад імя Камсамола Беларусі. Даведаліся, што штаб брыгады знаходзіцца ў раёне Чэрнай Вёскі. У выпадку, калі б у бліжэйшыя дні не атрымалі ніякіх указанняў, трэба было паслаць у штаб брыгады сувязных за загадамі.

Атрад Карпюка спыніўся на стаянку пад Ліпавым Мостам. Разасланыя ва ўсе бакі невялікія патрулі паведамлялі аб хуткім адступленні немцаў. Мноства нямецкіх калон рухалася па шашы Ваўкавыск — Беласток і так званым Напалеонаўскім шляхам.

Карпюк склікаў нараду. Пастанавілі атакаваць адступаючых немцаў. Для гэтага выбралі найбольш адпаведнае месца каля вёскі Каралёў Мост.

Стаяў пагодны дзень 14 ліпеня 1944 года Карпюк з 25-мі партызанамі пракраўся паміж вёскамі Боркі і Навасёлкі да Напалеонаўскага шляху. Атрад падзялілі на 3 групы, якім было загадана заняць пазіцыю. Карпюк, Дзімітр Карповіч, Яроцкі і Мішка - Кулямётчык наблізіліся да самага шляху. Хацелі жывымі ўзяць нямецкіх разведчыкаў.

Неўзабаве ад усходу паявіліся немцы на конях. Калі яны наблізіліся, партызаны выскачылі на гасцінец і закрычалі па-нямецку — гэндэ хох!

Немцы паволі паднялі ўгору рукі. Нечакана з-за павароту пачалі страляць па партызанах. Быў гэта нямецкі атрад, які ішоў за коннымі разведчыкамі. Перапыненыя кавалерысты націснулі шпорамі на каней і пачалі ўцякаць. Карповіч, Яроцкі і Мішка засяклі па іх з ўтаматаў. Двое фашыстаў зваліліся на зямлю. Упаў і яшчэ адзін, але хутка падхапіўся і схаваўся ў кустах.

Партызаны мелі поўныя рукі работы. Білі па немцах, якіх усё больш паяўлялася з-за павароту. Там узнікла вялікая мітусня. Цывільныя людзі, якіх акупанты гналі, як нявольнікаў, выкарысталі гэта і ўцякалі.

Далей нельга было стрымаць нямецкай навалы, і Карпюк загадаў адступаць.

Аляксандр Храноўскі з Дзернякова ляжаў за ляшчынавым кустом, раз-по-раз страляў па немцах, якія падступалі зусім блізка. Адступаў разам з усімі. Чарга з недалёкага нямецкага аўтамата паваліла яго на зямлю назаўсёды. Двое партызан спрабавалі несці цела таварыша. Аднак нямецкі агонь быў настолькі моцны, што вымушаны былі пакінуць яго ў кустах. Забралі толькі вінтоўку. Аляксандр Храноўскі быў трэцім з сям'і, які загінуў у партызанах.

Прыбыўшы да месца стаянкі атрада каля Ліпавага Моста, Карпюк вырашыў паслаць у штаб брыгады сваіх сувязных.

Фронт хутка набліжаўся, а са штаба не было ніякіх вестак. Загад дайсці да штаба брыгады атрымалі Яроцкі, Мялешка і Пекарт. Рэшта атрада мела быць перакінута ў раён вёскі Езафова і там пачакаць групу Яроцкага, якая павінна прынесці ўказанні са штаба, што знаходзіўся ў раёне Чорнай Вёскі.

Тры партызаны ішлі дзень і ноч, не адпачываючы. На месцы аднак засталі толькі ахову штаба брыгады. Падпалкоўнік Вайцехоўскі разам са штабам перайшоў у раён былой крэпасці пад Асаўцом, дзе меў да выканання нейкія спецыяльныя заданні. Ахова штаба перадала Яроцкаму ўказанні, каб іх атрад, а таксама і іншыя атрады заставаліся ў сваіх раёнах дзейнасці і ўнікалі большых сутычак з ворагам. Пажаданым было апекавацца мясцовым насельніцтвам і арганізоўваць яму ў лясах спецыяльныя лагеры. Атрымаўшы такія ўказанні, Яроцкі і таварышы нягледзячы на вялікую стому, рушылі назад пад вёску Езафова.

(Працяг будзе)

